№5, верасень, 2000 г.

Незалежнае экалагічнае выданне



Зялёны гай

# Даўгава-форум: перспектывы развіцця

27-29 верасня 2000 года ў Даўгаўпілсе на працягу трох дзён праходзіла міжнародная канферэнцыя «На шляху да ўстойліва-га развіцця ў памежных раёнах Латвіі, Беларусі і Расіі». У ёй удзельнічалі вучоныя прыродаахоўных цэнтраў і універсітэтаў Беларусі, Эстоніі, эксперты з Даніі, вучоныя Даўгаўпілскага цэнтра даследавання прыроды і экалагічнай адукацыі, прадстаўнікі Міністэрства асяроддзя і рэгіянальнага развіцця Латвіі, беларускія і расійскія дыпламаты, прадстаўнікі органаў самакіравання.

Форум адбываўся ў Даўгаўпілсе, у другім па велічыні горадзе ў Латвіі. У 2000 годзе ён адзначыў свой 75-гадовы юбілей. Горад мае выгоднае геаграфічнае становішча, бо мяжуе з Беларуссю і Літвой, і ў той жа час у 120 кіламетрах ад Расіі. У 1998 годзе насельніцтва горада склала 116 тысяч чалавек (рускія — 55,7%, латышы — 14,9%, палякі — 15%, беларусы — 9%, украінцы — 2,4%). Улічваючы блізкасць межаў і шматнацыянальны склад насельніцтва, у Даўгаўпілсе размешчаны тры консульствы — Расіі, Беларусі і Літвы. Гэта значны культурны цэнтр усходняй Латвіі. У горадзе і вакол яго шмат прыгожых азёр. Даўгаўпілс — перспектыўны рэгіён для развіцця міжнароднага турызму.

Пасля рэгістрацыі, увечары першага дня, праходзіў прыём удзельнікаў форума ў Даўгаўпілскай гарадской думе. У неафіцыйнай абстаноўцы былі прадстаўлены ўсе дэлегацыі, якія прыбылі на форум і была праведзена першая дыскусія.

У адкрыцці канферэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства аховы асяроддзя і рэгіянальнага развіцця Латвіі, Даўгаўпілскай гарадской думы, першы сакратар консульства Дацкага каралеўства Матс Лундэ. На першай сесіі разглядаліся заканадаўчыя базы супрацоўніцтва на памежных водах, былі закранутыя шматлікія іншыя праблемы. Экспертам з Даніі вельмі падрабязна і шырока быў выкладзены праект па еўрапейскай воднай дырэктыве.

Пасля кава-паўзы былі заслуханы даклады па інвестыцыйнай палітыцы ў Латвіі, а таксама праект супрацоўніцтва ў басейне ракі Даўгавы. Цікавы даклад прадставіў першы прарэктар ВДУ Анатоль Дарафееў: «Грамадскі рух «Дзвіна–Даўгава» і яго роля ў арганізацыі памежнага супрацоўніцтва». У ім разглядалася не толькі гісторыя стварэння арганізацыі, але і яе перспектывы і магчымасці. Значная роля была адведзена магчымасці супрацоўніцтва з рознымі NGO, што знайшло водгук у дакладзе асістэнта кафедры хіміі ВДУ Уладзіміра Слабіна.

Удзельнічалі ў канферэнцыі загадчыкі самакіравання шведскага горада Муталы. Яны расказвалі пра супольны з Даўгаўпілскай гарадской думай прыродаахоўны праект «DaMoFu» (Daugavpils-Motala-Future), які рэалізуецца ў межах праграмы «Local Agenda-21».

У апошні дзень канферэнцыі праходзіла праца ў групах па ахове навакольнага асяроддзя, сацыяльнаму і эканамічнаму развіццю, магчымасцям трансмежнага супрацоўніцтва на мясцовым



узроўні і ўзаемадзеяння NGO па памежных пытаннях. У выніку буйных дыскусій была выпрацавана праграма дзеянняў, якая ўключае ў сябе эканамічныя кантакты, турызм, утварэнне дабрачыннага фонду «Дзвіна — Даўгава», правядзенне маладзёжных акцый супрацоўніцтва ў галінах экалогіі, культуры, адукацыі, стварэнне інфармацыйных цэнтраў, выданне карт, манаграфій, супрацоўніцтва паміж універсітэтамі. Закраналася пытанне аб трохбаковым супрацоўніцтве міністэрстваў па басейне Дзвіна-Даўгава, стварэнні дзіцячых экалагічных летнікаў і руханў.

У другой палове апошняга дня мы наведалі прыродны парк «Daugavas loki» — месца знаходжання гістарычнага Дзінабурга; месца, дзе ў 80-я гады планавалі будаваць Даўгаўпілскую ГЭС. Гэта прывяло б да павялічэння ўзроўню Заходняй Дзвіны на 20 метраў і затаплення вялікай колькасці гістарычных і прыродных аб'ектаў. Сёння яны захаваны для нашчадкаў.

*Ігар Саладоўнікаў*

# Каб Радзіма была свабоднай

Сёння ў нас у гасцях дацэнт кафедры батанікі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта –Віктар Пятровіч Мартыненка.

Нам вельмі прыемна было паразмаўляць з гэтым цікавым чалавекам.

***— Як здарылася так, што Вы пачалі займацца менавіта батанікай? Калі Вы зразумелі, што гэта ваша справа?***

— Цяжка адказаць на гэтае пытанне, калі я вырашыў займацца батанікай. Скончыў я наш факультэт біялогіі і хіміі ў 1961 годзе. Пасля заканчэння, зразумела, быў накіраваны на сяло і тры гады працаваў настаўнікам хіміі-біялогіі ў сярэдняй школе. Потым была магчымасць працаваць ў адной з школ Віцебска, у раёне Маркаўшчыны, але я не паспеў, месца было занята іншым чалавекам.

Таму я падаў дакументы на конкурс асістэнта кафедры батанікі свайго роднага педагагічнага інстытута. Гэта было ў 1964 годзе, было месца на кафедры батанікі. Калі б было такое месца на кафедры заалогіі — я стаў бы займацца заалогіяй. Калі я быў студэнтам, мне давялося займацца навуковай працай па чмялях пад кіраўніцтвам любімага настаўніка Анатолія Іванавіча Радкевіча.

Трэба зазначыць, што прырода і біялогія цікавілі мяне з дзяцінства. Магчыма, па той прычыне, што мой бацька быў паляўнічым, ён вельмі любіў прыроду і гэта перадалося мне ад яго. Ён быў не з тых паляўнічых, якія жадаюць толькі здабычы, хутчэй за ўсё, яго цікавіла сустрэча з лесам і жывёльным светам. Сумленныя паляўнічыя з'яўляюцца сапраўднымі аматарамі і ахоўнікамі прыроды.

Так ужо каля трыццаці год я працую на кафедры батанікі.

***— Ці можна сказаць, што гэта было выпадкова?***

— Не, гэта не зусім выпадкова. Тая любоў, якую мне прышчапіў бацька, увасобілася праз некалькі год у тое, што я стаў выкладчыкам кафедры батанікі.

***— А цяпер, калі ласка, паведаміце нашым чытачам некалькі слоў пра сябе. Дзе Вы нарадзіліся і дзе прайшло Ваша дзяцінства?***



— Я нарадзіўся ў вёсцы Мішкуры (цяпер гэта пасёлак Тулава) у трох кіламетрах ад Віцебска. У гады вайны прыйшлося перанесці ўвесь цяжар жыцця: невялікі час я знаходзіўся ў канцлагеры пятага палка, на ўскраіне Віцебска. А пасля вайны пайшоў у вясковую школу, дзе вучыўся ў пачатковых класах. Потым вучыўся ў СШ №11, скончыў СШ №29 горада Віцебска.

***— Ці паўплывалі вашы бацькі на выбар вашай будучай прафесіі?***

— Хутчэй за ўсё, гэта было маё асабістае жаданне. Калі я вучыўся ў СШ №11, якая знаходзілася па вуліцы Гогаля, мы праходзілі каля інтэрната нашага педынстытута. Мы бачылі спартыўныя пляцоўкі, на якіх займаліся студэнты. Непадалёк ад інтэрната знаходзіўся жывёльны куток, там былі касулі, выдры... Невялікая частка гэтага жывёльнага кутка размяшчалася у будынку нашага педінстытута, які знаходзіўся тады на плошчы Свабоды. А калі я быў яшчэ зусім маленькім, да нас у Тулава прыязджалі студэнты і давалі канцэрты. Было каму ўпадабляцца. Мы іх бачылі такімі дарослымі, самастойнымі. Менавіта гэта і падштурхнула мяне пайсці ў наш педінстытут.

***— Скажыце, ці Вам падабалася студэнцкае жыццё?***

— Каму ж яно не падабаецца! Гэта ж самае лепшае. Пакуль мы вучымся, мы быццам бы стамляемся і думаем: «Як бы хутчэй скончыць навучанне». На самой справе гэта лепшыя гады жыцця і гэта разумееш толькі тады, калі пачынаеш працаваць. Калі я быў студэнтам, мне хапала часу на ўсё — і вучыцца, і займацца спортам. Мы былі вельмі стараннымі і самаарганізаванымі. Калі я быў студэнтам другога курса, мяне забралі з палявой практыкі для ўдзелу ў рэспубліканскіх спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы. Я выйграў першынство рэспублікі ў бегу на тры тысячы метраў. Займаўся яшчэ лыжамі, выступаў за інстытут.

***—Скажыце, ці ёсць у Вас якія-небудзь захапленні, акрамя батанікі?***

— Так, зараз у мяне ёсць такое захапленне. Я займаюся пчалярствам, у мяне ёсць пасека на дванаццаць сем'яў. Таксама я захапляюся паляваннем, тут я чэрпаю той матэрыял, які дапамагае мне лепш разумець прыроду і патрэбен мне падчас лекцый.

***— Я разумею: калі Вы вучыліся ў інстытуце, быў вельмі цяжкі час. Але ж студэнцкае жыццё не бывае без кур'ёзных выпадкаў. Раскажыце, калі ласка, які-небудзь з іх.***

-Такія выпадкі былі. Памятаю, як мае таварышы пажартавалі над сваімі дзяўчатамі. Гэта было на практыцы, адбывалася яна ў Полцеве, што ў 40 кіламетрах ад Віцебска. Месца вельмі прывабнае: лясы, лугі і шмат азёр. Але на беразе Дзвіны знаходзіліся могілкі і вадой паціху падмывала берагі. Хлопцы знайшлі там чэрап і прынеслі яго ў лагер. Увечары, калі ўжо сцямнела, яны прасунулі яго пад палатку, дзе жылі дзяўчаты і нечым пасвяцілі. Можна сабе ўявіць, што было з тымі дзяўчатамі. Яны выскачылі з палаткі, а адна з іх на некаторы час страціла мову.

***-А ці ёсць такое жаданне, каб заняцца чым-небудзь яшчэ, чым Вы яшчэ не займаліся да цяпе-***

***рашняга часу? Выявіць сябе ў якой-небудзь іншай галіне навукі?***

-Не, я ўжо трыццаць год займаюся макрафітнай расліннасцю нашых азёр і не змяняю гэтай тэмы. Мы вывучаем водную расліннасць Віцебшчыны, яе дынаміку, асабліва на поўначы, дзе невялікае насельніцтва і яшчэ сустракаюцца незасмечаныя азёры і бары — гэта тэрыторыя нашай беларускай Швейцарыі.

***— Давайце вернемся ў Ваша дзяцінства. Адкажыце, якім Вы былі хлапчуком — свавольнікам альбо ціхім і спакойным?***

— Менавіта ціхім і спакойным. Дзяцінства было цяжкім. Калі мне было 4-5 год, пачалася вайна, нямецкія танкі ўварваліся ў вёску, усё навокал грукатала. Гэта было вялікім стрэсам, я забіўся ў нейкі куточак, а сёстры супакойвалі мяне. А потым былі цяжкія гады нямецкай акупацыі. Спачатку мы жылі дома, а потым нас выгналі з нашай хаты, яна была найлепшая з усёй вёскі. Бацька быў добрым цесляром і сам яе будаваў. Таму наш дом занялі немецкія афіцэры, а мы жылі ў лазні. Потым трапілі ў канцлагер і знаходзіліся там аж да 1944 года, пакуль не былі вызвалены атрадамі Чырвонай арміі.

Дзяцінства было цяжкім, але і радасным. Прырода была вельмі прывабнай і чыстай. Рэкі поўніліся рыбай, лясы — ягадамі, арэхамі, грыбамі...

***— А якая ў Вас самая запаветная мара?***

— Каб Радзіма была свабоднай. А гэта пачуццё асабліва абвастраецца, калі ёй штосьці пагражае.

***— Вы шчаслівы чалавек?***

— У нечым так, а ў нечым і не. Я шчаслівы таму, што змог знайсці сябе ў жыцці.

***— Чаго б Вы пажадалі «Эквіцэ»? Як можна, на Ваш погляд, нам трэба пачынаць сваю экалагічную дзейнасць?***

— Трэба добра падумаць, з чаго пачаць, бо працы вельмі шмат і з нечага трэба пачынаць!

***Гутарылі Вольга Каваленка, Дзмітрый Кужаль і Наталля Кузьміна***

# Віцебшчына: слабае звяно

Паводле «Справочника беларуских общественных объединений» (Мн.: Агентство САДИ, 1998) падрыхтаванага грамадскім аб'яднаннем «United Wa» у, шмат арганізацый абвяшчае экалагічную (прыродаахоўную, кансервацыйную, устойліваразвіццёвую) дзейнасць у якасці адной са сваіх галоўных. Можна спасылацца на састарэлыя дадзеныя, на непераадоленыя цянёты перарэгістрацыі, нарэшце, на тое, што не ўсе арганізацыі ўвогуле жадаюць рэгістравацца. Аднак пры ўсім пры гэтым канстатуйма невясёлую выснову: у Віцебскай вобласці недапушчальна недаразвіты экалагічны рух.

***Наталля Абазоўская***

**Берасцейская вобласць**

1. Баранавіцкі маладзёжны экалагічны клуб «Неруш-Цэнтр»
2. Баранавіцкае рэгіянальнае аддзяленне Беларускага Экалагічнага Саюза
3. Берасцейскае абласное аддзяленне Беларускага геаграфічнага таварыства
4. Лабараторыя геаграфіі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы
5. Міжнародны незалежны радыяцыйна-экалагічны цэнтр нарвежска-беларуска-скандынаўскай арганізацыі
6. Грамадская арганізацыя «Школа выжывання»
7. Аб'яднанне беларускіх скаутаў, Баранавіцкая харугва
8. Навакольнае асяроддзе і я
9. ЭМА «Экалогія»

**Віцебская вобласць**

1. Беларуская ветэрынарная асацыяцыя
2. Віцебскі абласны экалагічны рух навучэнцаў
3. Заходне-Дзвінскае басейнавае аддзяленне СоЭС «Даўгава»
4. Полацкае экалагічнае аб'яднанне «Крыніца»

**Гарадзенская вобласць**

1. Гродзенская гарадская харугва скаўтаў імя Давыда Гарадзенскага
2. Гродзенская рэгіянальная рада маладзёжных арганізацый «23»
3. Заходне-Беларускае таварыства аховы птушак
4. Маладзёжнае аб'яднанне «Экамір»

**Гомельская вобласць**

1. Беларуская рэспубліканская асацыяцыя «Зялёны клас»
2. Беларускае сацыяльна-экалагічнае аб'яднанне «Зялёны свет»
3. Дабрачыннае таварыства «Экаполіс.Мазыр»
4. Гомельская абласная арганізацыя адкрытага скаўтызму
5. Гомельскі гарадскі экалагічны маладзёжны клуб «Палессе»
6. Гомельскі абласны маладзёжны эксперыментальны цэнтр гуманітарных ініцыятыў «Зялёны дом»
7. Гомельскі філіял Беларускай асацыяцыі выкладчыкаў-эколагаў
8. Інтэрнацыянальны дыскусійны клуб
9. Ліга жанчын Гомеля «За выжыванне»
10. Лоева-Брагінская асацыяцыя садзейнння захаванню прыроднага асяроддзя і культурна-гістарычнай спадчыны «Карані»
11. Рагачоўскі цэнтр краязнаўчай і пошукавай працы

**Магілеўская вобласць**

1. Беларускае аддзяленне міжнароднага экалагічнага фонду «Батанічны сад «Іванаў хутар»
2. Дзіцяча-юнацкі цэнтр падарожжаў і краязнаўства «Бабраня»
3. Магілёўскі аддзел Беларускага геаграфічнага таварыства
4. Магілёўскі гарадскі зялёны рух
5. Асіповіцкая гарадская экалагічная асацыяцыя

***Працяг на наступнай старонцы***

# Віцебшчына: слабае звяно

**Мінск і Мінская вобласць**

1. Асацыяцыя студэнтаў і маладых спецыялістаў, што займаюцца эканомікай і кіраваннем
2. Акадэмічная асацыяцыя па міжнародных справах «ДЭРИУС»
3. Аналітычны даследчыцкі саюз «XXI стагоддзе»
4. Асацыяцыя незалежных навукоўцаў і вынаходнікаў «Рэнесанс навукі і вынаходніцтва»
5. Асацыяцыя міжнароднага супрацоўніцтва па экалогіі і культуры «INTEKO»
6. Асацыяцыя прафесійных эколагаў
7. Беларуская акадэмія экалагічнай антрапалогіі
8. Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў
9. Беларуская асацыяцыя «Абаронцы і жыхары блакаднага Ленінграда»
10. Беларуская асацыяцыя кансультантаў па эканоміцы і кіраванню
11. Беларуская асацыяцыя выкладчыкаў-эколагаў
12. Беларуская асацыяцыя распрацоўшчыкаў, пастаўшчыкоў і карыстальнікаў геаінфармацыйных тэхналогій і сістэм
13. Беларуская горная акадэмія
14. Беларуская інжынерная акадэмія
15. Беларускі дэльфійскі камітэт
16. Беларускі нацыянальны камітэт судзеяння ААН па навакольным асяроддзі
17. Беларускі сацыяльна-экалагічны «Саюз Чарнобыль»
18. Беларускі саюз моладзі
19. Беларускі фонд запаведнікаў
20. Беларускі цэнтр «Чыстая вытворчасць»
21. Беларускі экалагічны саюз
22. Беларускае батанічнае таварыства
23. Беларускі рух «Педагогі за мір і паразуменне»
24. Беларускае лясное навукова-тэхнічнае таварыства
25. Беларускае таварыства генетыкаў і селекцыянераў
26. Беларускае таварыства аховы прыроды
27. Беларускае таварыства лесаводаў
28. Беларускае таварыства радыёбіёлагаў
29. Беларускае таварыства «Веды»
30. Беларускае аб'яднанне за народную цвярозасць і здароўе «Аптымаліст»
31. Беларускае арніталагічнае таварыства
32. Беларускае энтамалагічнае таварыства
33. Бюро па экалагічных кансультацыях
34. Усебеларускі саюз скаўтаў
35. Гуманітарная арганізацыя «Славянскі дом»
36. Дзіцяча-юнацкі цэнтр «Чароўная кветка»
37. Жанчыны за экалогію
38. Заводскае раённае таварыства аховы прыроды
39. Культурная асацыцыя
40. Міжнародная акадэмія інфармацыйных тэхналогій
41. Міжнародная акадэмія экалогіі
42. Міжнародная асацыяцыя «Малыя рэкі»
43. Міжнародная грамадская арганізацыя «КАЯ»
44. Міжнародная грамадская арганізацыя «Цэнтр выратавання прыроды»
45. Міжнародная экалагічная асацыяцыя «Ecovillage»
46. Міжнародны фонд «Канверсія і экалогія»
47. Міжнародны фонд «Экалогія будучага»
48. Міжнародны цэнтр па выжыванні
49. Мінскі экалагічны клуб
50. Мінскі экалагічны савет
51. Мінскае аддзяленне Беларускага сацыяльна-экалагічнага аб'яднання «Зялёны свет»
52. Мінскае аддзяленне Беларускага экалагічнага саюза
53. Мінскае аддзяленне Міжнароднай акадэміі экалогіі
54. Маладзёжная асацыяцыя »Зялёная страла»
55. Маладзёжнае грамадскае аб'яднанне «Гісторыка-экалагічны турыстычны клуб «Зялёны дуб»
56. Маладзёжнае аб'яднанне «Моладзь на службе навакольнага асяроддзя»
57. Маладзёжны экалагічны рух «Белая Русь»
58. Нацыянальная беларуская экалагічная навукова-практычная асацыяцыя
59. Незалежная беларуская экалагічная навукова-прамысловая асацыяцыя
60. Абласная грамадская арганізацыя «Экзон-ДС»
61. Грамадская арганізацыя «ЭКА-ЛАЙН»
62. Грамадскі навукова-аналітычны цэнтр «Беларуская перспектыва»
63. Аб'яднанне навуковых работнікаў «Асана» БАНТИ
64. Рэспубліканскі адукацыйны цэнтр па ўстойліваму развіццю
65. Рэспубліканскі грамадскі фонд «Экомир»
66. Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў
67. Рэспубліканскае беларускае маладзёжнае аб'яднанне «Next Stop — New Life»
68. Рэспубліканскае таварыства «Экалагічная культура»
69. Салігорская грамадская рэгіянальная маладзёжная арганізацыя «Светач»
70. Салігорская асацыяцыя «Выратаванне дзяцей Чарнобыля»
71. Салігорскае грамадскае аб'яднанне «ЭКА»
72. Студэнцкая дружына па ахове прыроды БДТУ
73. Экалагічная асацыяцыя «Сфера»
74. Экалагічны адукацыйны цэнтр «Экадом»

---

26 кастрычніка Віцебск наведаў актывіст польскага экалагічнага руху Станіслаў Гурка. Зараз ён каардынуе супольны польска-беларускі праект — выданне часопіса «Зялёны край» (у працяг традыцый «Зялёнага весніка EcoInform»). Высокі госць меў сустрэчы і плённыя кансультацыі з прадстаўнікамі «Экавіты», «Контура» і Віцебскага аддзялення Фонду імя Л.Сапегі. Пан Гурка з цікавасцю ўспрыняў наша выданне, пажадаў атрымліваць яго нумары надалей, а таксама падараваў свежыя маляўнічыя выпускі вядомага часопіса «Zielone Brygady», які рэдагуе ў Кракаве энтузіяст Анджэй Жвава.

***Аляксандр Цароў***

4 кастрычніка прадстаўніца галандскай арганізацыі Milieukontakt Oost-Europa Сюзан Бекер і кіраўнік міжнароднай арганізацыі «BURENCO» Уладзімір Калтуноў мелі сустрэчу ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце, у якой прымалі ўдзел А.Дарафееў, Ф.Шкіранда, В.Біруков, Н.Новікава, С.Дзядзімкіна, С.Сцёпін і У.Слабін. Размова ішла аб магчымасці супрацоўніцтва ў святле галандскай праграмы падтрымкі беларускіх экалагічных NGO.

***Уладзімір Слабін***

# Чыкагскі дзённік

*(Працяг, пачатак у №4)*

**ЧАСТКА 2. БАТАНІЧНЫ САД.**

Я бачыла розныя батанічныя сады, дэндрарыі і арэнжэрэі. У Нікіцкім батанічным — вялікая калекцыя ружаў. У Сухумскім батанічным — больш экзатычных трапічных дрэў. Віцебскі батанічны — вельмі маленькі.

Чыкагскі батанічны адрозніваецца ад усіх, што я бачыла — сваімі памерамі. У ім ёсць вялікі краявідны парк, сад і агарод. Але, больш за ўсё ўразіла кветка лотаса-гібрыда, яна такая вялікая! Ёсць ружовыя і белыя кветкі, якія высока, недзе на метр, паднятыя над вадой. У краявідным парку вельмі ўдала выкарыстоўваюць рэльеф, пагоркі, ручаі і рэчку.




Мне вельмі спадабаўся японскі куток. Мы падымаліся на пагорак па камяністай сцежцы. На вяршыні павець-пагада, дзе можна сядзець і глядзець на поле светлага пяску з нейкімі авальнымі пісогамі. Мы зразумелі, што гэта месца дзеля прывядзення думак у парадак. Нейкая такая гармонія чалавека і прыроды.

Маленькія сосны, нібыта з японскіх малюнкаў, рэдкія віды туі і іншых кустарнікаў, пукі траў рознага колеру, маленькія каменныя пагады — усё гэта разам утварае натуральныя прыродныя малюнкі, якія ўміляюць.

Я зрабіла выснову, што там сабраны расліны Умеранага пояса, але з розных куткоў планеты. Перад уваходам у батанічны сад — месца для пікнікоў і стаянкі. Зусім ужо нечаканым было для нас — гэта ўбачыць сталы з келіхамі каля ружаў і шматлікія пары жаніхоў з нявестамі. Але ўявіце сабе, як прывабна ладзіць вяселле ў батанічным садзе. Мабыць, пагэтаму аазіс прыроднай прыгажосці мае грошы, каб даваць усім шмат буклетаў аб сабе і сваіх праграмах, рассылаць шмат паштовак з запрашэннем да валанцёрства?

**«Сябры ракі Чыкага»**

Простая, душэўная і канкрэтная назва грамадскай аргрнізацыі. У нядзельны дзень мы паехалі адпачываць экзатычным чынам. Нам далі карты, алюміневыя каноэ, вёслы ды двух хлопцаў-праваднікоў, адзелі на кожнага выратавальную камізэльку і адправілі наперад, у падарожжа. Плавалі мы недзе гадзіну з паловай. Добра, што куратарша намазала нас крэмам ад загару. У Чыкага нават у зусім воблачнае надвор'е чалавек загарае ад рассеянай сонечнай радыяцыі.

Можна шмат часу распавядаць пра тое, як кусты, дрэвы і травы ўтвараюць зусім беларускія краявіды вакол спакойнай ракі з нізкімі берагамі. І рыбакі, зусім як нашы, выглядалі з кустоў. Нечаканым было толькі прывітанне з просьбай не чапаць паплаўкоў. Рыбак звярнуўся да нас па-руску. Нашых былых там шмат.

«Сябры ракі Чыкага», якія прадаюць білеты на экзатычныя «круізы», зарабляюць грошы на сваю дзейнасць. Падаткі іх не кранаюць. Іх дзейнасць лічыцца непрыбытковай, накіраванай на вырашэнне адной з канкрэтных праблем грамадства.

**Краявідны парк.**

Калі бачыш вакол сябе гарадскія краявіды сямімільённага горада, разумееш жаданне чыкагцаў стварыць куток дзікай прыроды. У парку некалькі штатных супрацоўнікаў і сотні валанцёраў. Наш гаспадар, уладальнік фірмы, таксама ездзіў у нядзелю на веласіпедзе ў гэты парк, каб дапамагчы. Такое ўражанне, што чыкагцаў хлебам не кармі, дай паваланцёрыць. Вельмі прыемныя людзі сустрэлі нас у гэтым парку. Мы дапытваліся ў кіраўніка гэтага парка: чаму яны ідуць да вас працаваць на дабрачыннай аснове? Што вы для гэтага робіце, як прываблівэаеце такую колькасць людзей пад сцяг захоўвання роднай прыроды? Ён смяяўся і казаў: »Мы іх падкормліваем, два разы на год робім пікнікі для актывістаў, са сваёй пасекі раздаем мёд. А калі сур'ёзна, то яны самі ідуць. Ім падабаецца ў нас: вядуць сваіх дзяцей, працуюць разам з імі, адпачываюць». У парку ёсць памяшканні, дзе абсталяваны вучэбныя пакоі. Распрацаваны заняткі для дзяцей, ёсць нагляднасці. На канікулах ёсць нешта накшталт нашага гарадскога летніка пры школах.

Мы ішлі спачатку цяністымі ляснымі сцяжынкамі. Нам распавядалі пра цукровы клён, далі паспрабаваць сіроп, падзяліліся тэхналогіяй прыгатавання. Мы параілі пасадзіць беларускія бярозы для атрымання бярозавага соку, каб прывабіць яшчэ больш валанцёраў. Мужчыны параілі, што лепш з яго квас зрабіць.

А калі дайшлі да балота з чаплямі, так старанна рэканструяванага валанцёрамі, то ледзь не кінуліся ў скокі ад радасці — родныя краявіды! Расказалі навукоўцу пра наша Палессе, віцебскія балоты з журавінамі і Бярэзінскі запаведнік. Дарэчы, яны вельмі цікавіліся тым, што ў нас расце, і якія звяры ў лесе. А мне было цікава паглядзець эхінацыю пурпурную, якая расла на прыгорку.

Калі напрыканцы сустрэчы нас пачаставалі лушчанымі семкамі, гарэхамі і салодкім кляновым сіропам, то мы канчаткова паверылі, што прыкормліваць валанцёраў — вельмі карысная рэч.

***(Заканчэнне ў наступным нумары)***

*Людміла Бальшакова*

# English Page
# Survival formula

***ALLHUMAN STANDARD FOR THE THIRD MILLENIUM***

The Appeal to the Members of The Scientific and Medical Network and Other Scientists around the world

***(працяг, пачатак у №4)***

The technological development in the XX century has been polarized into low and high technologies. The nano-technologies are developing, exciting hope for the assemblers — molecular micro-machines, invisible to the naked eye.

However, time is accelerating for the technologically developing only, where manual work is successively being substituted by computers and automata. Present humanity is being divided into the technologically advanced enclaves and the majority more and more obsolete, poor, starving or self-destroying in homicide. Nobody is even able to reverse this trend, let alone to stop it.

The era of economic autarchy is gone, replaced by the open world-economy and it is also unchangeable and inevitable occurrence for everybody, who will not pay with economic and political suicide. Economic development and population growth have reached already its environmental limits of exploitation. **The sixth extinction in the history of planetarian biosphere has already begun. Its side-effect is Global Warming,** Today only the stability of the climate is being affected, Tomorrow bringing about new climate zones where many low laying countries will disappear under the waters.

Apart from unimaginable technological advantages and enclaves of high wealth, our planet is heading towards the gap of poverty, hunger, diseases, obscurity and xenophobic fanaticism. In the XXI century we may expect: .

- great environmental calamities,
- growing civilization of economic shortages and hardship,
- political upheavals, overthrowing many previous powerholders,
- «wars of disaster», supported by mass-destruction weapons,
- hunger-riots successfully anarchizing many countries,
- multimillion migrations from East and West,
- growing criminality, especially organized crime,
- global conflicts with use of mass-destruction means, which will diminish the number of human population as well as living space on the planet,
- collapse of great powers and arrival of new coalitions of new, multiethnic nations,

— spiritual movements containing the old and new confessions.

There is no doubt, that we find ourselves in the decline of primitive, life-destroying civilization — the only one, which we know from experience. However logical reasoning allows us to infer, that existing crisis opens the gate towards the future development of a galactical civilization, if only today we can organize ourselves in a position of «allhuman solidarity and symbiosis with nature». Whether weavoid upcoming catastrophic events such as the «katharsis:»restoring humanity's health or as humanity's agony, it depends only on human imagination and will, depends on us.

**Diagnosis**

The picture presented above is not static. Within its dynamics, one positive and two negative trends may be distinguished. We usually evaluate rather positively the consequences of science and technology, as shortening the distance between people from different cultures and continents, dismissing barriers of life, as well as opening new prospects for the development of total biosphere. These consequences are ambivalent indeed: on the one hand we may find new facilitation of inter-human life and symbiosis with biosphere, on the other hand — growing consolidation of violence.

The present world scientific development involves a rather narrow circle of countries, where the«countries-heads», developing innovations and the «countries-bodies», applying foreign patents and know-how, are distinguished.

The USA, the country of millionaires and billionaires, owing to better organization and «brain-drain», have been leaving the rest of the world behind,and this distance is growing. Yet more than thirty years ago the Polish writer, Stefan Bratkowski called the USA «the escaping continent». Now a very well known financier has been equating the world-economy to a four-engines plane, flying on only one, American engine. The rest of the world may be divided into three categories:

1) the countries of relative scientific and technological development, sensitive to the protection of human rights, open for dialogue and compromises;

2) the countries with prevailing low technologies, «developing to obsolescence» as one of the global reports says.These countries are often authoritarian from inside, outside and aggressive towards their neighbourhood;

3) the hopeless countries of terrible poverty, wasted environment, epidemic diseases, and neighborhood massacres.

In the awareness of the state of the world, the nineteenth's century faith for the progress via science & technology has disappeared like smoke. Nowadays nobody doubts, that scientific-technological development in the womb of our present civilization is inable to ensure the world-survival.



Сачыненне Яна Марыі Шыманскага — старшыні Фонду за выжыванне і адраджэнне чалавецтва - Fundacji dla Ludzkiego Przezycia i Odrodzenia - (Лодзь, Польшча) «Формула выжывання: агульначалавечы стандарт для трэцяга тысячагоддзя» ўяўляе сабой заклік да навукоўцаў і ўрачоў свету.

***Працяг у наступным нумары.***

# Літаратурная старонка: NRM

Творчасць рок-гурта «N.R.M.» у складзе Алега Дземідовіча, Юрася Ляўкова, Піта Паўлава, Лявона Вольскага і Вячаслава Кораня можа быць прынцыпова разгледжана з пазіцый дарвінізму і папуляцыйнай экалогіі.

Так, у песні «Глухі, сляпы, дурны» выкладзены бліскучы доказ таго, што папуляцыйна адмарожаная асобіна ўяўляе сабой эвалюцыйны тупік і не мае шанцаў у барацьбе за існаванне. Песня «Лепей не будзе» («будзе толькі горш») — аб акрутным уціску натуральнага адбору. «Партызанская песня» — аб гармоніі чалавека з прыродай і так актуальным сёння ўстойлівым развіцці (sustainable development), якое забяспечвалі лясныя браты.

Песня «Тры чарапахі» мае выразна супярэчлівы змест. Так, варта пагадзіцца з тым, што кіты і чарапахі сапраўды існавалі і тады, калі не нарадзіўся правадыр сусветнага пралетарыяту. Гэта адпавядае і філагенетычна-эвалюцыйнаму дрэву жывых арганізмаў. Аднак сцвярджэнне, што мацярык Зямля месціцца на трох кітах, павінна выклікаць пратэст у кожнага носьбіта марксісцка-матэрыялістычнага светапогляду. Гэта буржуазна, спадар Дземідовіч.

«Песня падземных жыхароў» апавядае аб цяжкіх умовах існавання родаў Rattus і Mus (пацукоў і мышэй). Зрэшты, усё спяванае датычыцца таксама іншай глебавай фаўны, у тым ліку кратоў і дажджавых чарвякоў.

Калі хто не ведае, на якія матыў спяваць ніжэйпадзеныя песні, — звяртайцеся да рэдакцыйнай рады гэтага нумара — Дзмітрыя Кужаля, Вольгі Каваленкі, Алены Зубец і Наталлі Кузьміной. Яны слухалі і гэта быў alles.

***Ціхан А. В.***



### ТРЫ ЧАРАПАХІ

Калі раптам адчуеш камунальныя пахі
І жыццё цябе возьме ў пятлю, -
Зразумееш тады, што тры чарапахі
Па-ранейшаму цягнуць Зямлю.
Калі выйдзеш у горад ці залезеш у горы
І з людзьмі усталюеш кантакт, -
Зразумееш тады, што і ўчора і сёння
Наша месца на трох кітах.
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай: сюрпрызаў не будзе!
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай, ты не чакай!
Не было Галілея, ні Боба Марлея,
Не было Сальвадора Далі,
Ні Леніна, ні Ленана, ні Карла Ліннэя,
А кіты і чарапахі былі.
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай: сюрпрызаў не будзе!
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай, ты не чакай!
Каб любіць Беларусь, нашу мілую маму,
Трэба ў розных краях пабываць.
Зразумееш тады: пад тваімі нагамі
Тры сланы нерухома стаяць.
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай: сюрпрызаў не будзе!
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай, ты не чакай!
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай: сюрпрызаў не будзе!
Гэй, ла-ла-ла-лай,
Ніхто не чакае — і ты не чакай!

### ПЕСНЯ ПАДЗЕМНЫХ ЖЫХАРОЎ

У нашай краіне ніколі не ўзыйдзе сонца.
У нашай краіне ніколі не ўзыйдзе месяц.
У нашай краіне ніколі не бачна зорак.
У нашай краіне ніколі не будзе святла.
***Прыпеў:***
Мы жывем пад зямлёю,
Мы жывем пад асфальтам,
І нам з табою
не трэба літасці і шкадавання!
Мы жывем пад асфальтам,
Мы пацукі і мышы,
Мы добра бачым у цемры,
Мы чуем кожны шолах!
У нашай краіне ніколі не ўзыйдзе сонца.
У нашай краіне ніколі не ўзыйдзе месяц.
У нашай краіне ніколі не бачна зорак.
У нашай краіне ніколі не будзе святла.
***Прыпеў.***
У нашай краіне
не чутна ўрачыстых гімнаў.
У нашай краіне няма праграмы навінаў.
У нашай краіне
не трэба адметак з пячаткай.
У нашай краіне няма палымяных
прамоў.
***Прыпеў.***
У нашай краіне няма бананаў і ківі.
У нашай краіне няма рыпучага снегу.
А недзе наверсе над намі жыве краіна,
Там людзі жывуць, якія не любяць нас
***Прыпеў.***

# Заапоказкі

Ідзе Воўк па лесе. Бачыць: насустрач бяжыць Заяц. Злавіў яго Воўк за вушы:
— Заяц! А ну скажы, што ў мяне ў правай кішэні на літару «ж». Не адгадаеш — гані дзесяць рублёў. Заяц доўга думаў, але так і не здагадаўся. Даў Ваўку дзесяць рублёў.
— Ну дык што ў цябе ў кішэні ?
— Жапальнічка !
Наступнага дня Воўк зноў злавіў Зайца.
— Касы ! А што ў мяне ў другой кішэні на літару «ы»? Не адгадаеш — гані дзесяць рублёў. Заяц зноў не здагадаўся, даў дзесятку.
— Ну дык што там у цябе ?
— Ышшэ адна жапальнічка !

* * *

Сустрэліся два дыназаўры:
— Колькі гэта трэба эканамістаў, каб укруціць лямпачку?
— А хто такія эканамісты?
— Гэта такія матэматыкі, якія намагаюцца падлічыць, колькі ў Аўстраліі водзіцца кенгуру. Але пра кенгуру мяне не пытай — сам не ведаю.
— Ну і колькі?
— 10 эканамістаў і адзін аспірант. Адзін эканаміст створыць мадэль, другі праверыць гіпотэзу, трэці выканае разлік, чацвёрты інтэрпрэтуе яго вынікі, пяты напіша інструкцыю, а аспірант укруціць лямпачку.
— А астатнія пяць?
— Будуць адбівацца ад дыназаўраў, якія паспрабуюць іх з'есці.

* * *

Паводка. На галіне дрэва сядзяць сабака і заяц — ратуюцца ад падступаючай вады. Раптам заяц штурхае сабаку ў бок і радасна кажа:
— Глядзі, човен плыве! Пэўна ж, дзед Мазай!
— Адкуль ты ведаеш, што не Герасім? — пахмура азываецца сабака.

* * *

Заяц прыходзіць да савы.
— Сава, чаму гэта ў мяне левая пярэдняя лапа свярбіць?
— Гэта, заяц, значыць, грошы будуць.
— А пярэдняя правая чаму свярбіць?
— Гэта, заяц, дзеці будуць.
— А задняя левая?
— Гэта значыць, у падарожжа паедзеш.
— А задняя правая?
— Заяц! Мыцца трэба часцей!

* * *

Жаба сядзіць у балоце. Вожык прыбягае, пытаецца:
— Як вадзіца?
— А я тут як жанчына сяджу, а не як тэрмометр!

* * *

Сустракаюцца два вожыкі. У аднаго лапка забінтавана.
— Што з табой здарылася?
— Ды нічога. Проста захацеў пачухацца.

# Конкурс

Рэдакцыя «Зялёнага гая» працягвае конкурс на найлепшага знаўцу беларускіх, рускіх і англійскіх песняў, у тэкстах якіх фігуруюць назвы :
Намінацыя PISCES — рыб
Намінацыя INSECTA — насякомых (вусякоў)
6 чытачоў (па 3 у кожнай намінацыі), якія да Каталіцкіх Калядаў дашлюць на адрас: 210029, Віцебск, паштовая скрынка 18 спіс з найбольшай колькасцю ўрыўкаў адпаведных песняў, — атрымаюць кампакт-дыскі з запісамі папулярных выканаўцаў.

## *Приз в студию!*



***Биологический энциклопедический словарь. М.: Советская энциклопедия, 1986. Таблица 56.***

**«ЗЯЛЁНЫ ГАЙ»**
Выдаецца на беларускай і англійскай мовах пры падтрымцы USIS
Заснавальнік: Моладзевая экалагічная ініцыятыва «ЭКАВІТА»
Выдавец: ЦМІ «КОНТУР»
Галоўны рэдактар: Зміцер Кужаль
Рэдакцыйная рада: Аляксандр Цароў, Алена Зубец, Вольга Каваленка, Наталля Кузьміна
Дызайн і вёрстка: Сяржук Серабро

Тэл./факс: +375-212-220648
HTTP://www.vitebsk.net/kontur,
HTTP://www.geocities.com/RainForest/Wetlands/1061/ecavita.html
E-Mail: kontur@vitebsk.net

Друк: Віцебскае аддзяленне Фонду імя Л. Сапегі

Выдаецца на правах рукапісу, для унутранага карыстання